**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 18 (891) 4 траўня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

**Дударскі рэй – 2017**
**6-7 траўня**
**Першы фэст дударскіх рэгіёнаў на Глыбоччыне**



Віталь Воранаў



ISSN 2077-8023



Полацкі раён

# Прызнанне за справы

■ Станіслаў Раманчук.

**Любому вытворцу, каб упэўнена адчуваць сябе і заваёўваць новыя рынкі збыту, неабходна пастаянна ўдасканальваць тэхналогіі і абнаўляць прадукцыю.**

Па такім прынцыпе імкнецца дзейнічаць адзін з гігантаў айчыннай хімічнай прамысловасці ААТ “Полацк-Шкловалакно”. Гэты завод, адзін з вядучых у Еўропе ў сваёй сферы, быў створаны ў далёкім 1958 годзе і зараз на ім працуе звыш 4 тысяч чалавек. Аднак летась палачане правялі чарговы этап мадэрнізацыі вытворчасці, запусцілі абноўленую печ № 2 і павялічылі выпуск асноўнай прадукцыі на 20 %. Таксама ў мінулым годзе пачалі завадчане выпускаць інавацыйнае базальвае валакно і вырабы з яго. Геаграфія паставак прадукцыі вырасла да 55 краін свету, а гадавы тавараабарот перавысіў 100 млн. долараў, бо асартымент выпускаемай прадукцыі дасягнуў звыш 900 найменняў. На экспарт пастаўляецца большая частка вырабаў, на ўнутраны рынак ідзе толькі 10 % гатовай прадукцыі. У выніку рэалізацыі новага інвестыцыйнага праекта на прадпрыемстве дабавілася 105 новых рабочых месц. Аб гэтым узгадвалася днямі ў беларускай сталіцы, дзе адбылася штогадавая цырымонія ўручэння прэмій урада Беларусі за дасягненні ў галіне якасці. Высокую ўзнагароду палачанам уручыў прэм’ер-міністр Андрэй Кабякоў. Прыемна, што высокае званне лаўрэатаў гэтага конкурсу калектыў “Шкловалакна” пацвердзіў у чацвёрты раз з моманту заснавання прэміі ў 1999 годзе. Высокая якасць прадукцыі завода забяспечваецца распрацоўкамі ўласных спецыялістаў і вучоных.

Дубровенскі раён

# Майстэрства не прап’еш

■ Кастусь Александровіч

**Як і летась на Віцебшчыне ў гэтым годзе паўсюдна вельмі перашкаджала весці палявыя работы халоднае і няўстойлівае надвор’е.**

Аднак калі ў цэлым па вобласці да рэзкага пахаладання са снегападам зерневыя паспелі пасеяць толькі на чацвёртай частцы плошчаў, то Дубровенскі раён практычна справіўся з гэтай задачай. У адной з вядучых гаспадарак “Баброва-агра” зерневыя і зернебабовыя займалі 1740 гектараў і амаль усе ўчасткі засеялі, за выключэннем яравой пшаніцы. Для атрымання ўласнага насення пасеялі і 10 га гароху, а поспеху справы спрыяла прымяненне сучасных пасяўных агрэгатаў і энерганасычаных трактароў. Нядрэнна перазімавалі ў раёне і азімыя культуры, мінулай восенню на значных плошчах узаралі глебу. Паспелі ў аптымальныя тэрміны тут правесці першую падкормку азімых зерневых. Улічваючы і сёлета атрымаць у рэгіёне важкі вынік, бо апошнім часам Дубровенскі раён увайшоў у лік пяці лепшых у Прыдзвінні па валавых намалотах збожжа. Тут таксама даволі добра родзіць і паўночны шоўк, а мясцовы льнозавод, адзін з лепшых у Беларусі, поўнасцю забяспечыў сваіх партнёраў па вырошчванні лёну сродкамі абароны і ўгнаеннямі, неабходнымі для вырошчвання гэтай працаёмкай культуры. Увогуле людзі стараюцца працаваць, калі атрымоўваецца зарабляць добрую зарплату. Адным з лепшых у вобласці і першым у сваім раёне стаў мужчына, аператар машыннага даення кароў Юрый Курашэвіч з сельгасфіліяла імя Ю. Смірнова Аршанскага КХП. Гэты дояр летась надаіў на кожную карову па 8473 літры малака, таму штомесяц зарабляе па тысячы і болей рублёў. Цікава, што пару гадоў назад ён выпіваў часта, але пасля вяртання з ЛПП чалавека быццам падмянілі. Юрый не п’е зусім, нават піва, жыве і працуе дастойна, а па выніках працы ў сакавіку зноў быў прызнаны адным з лепшых жывёлаводаў вобласці.

Талачынскі раён

# Рэўнасць – злавесны аргумент

■ Чэслаў Якубовіч.

**З глыбінь стагоддзяў на беларускай зямлі светлае свята Хрыстова Уваскрасення сімвалізавала перамогу дабра над злом, напаўняла чалавечыя душы міласэрнасцю, радасцю і дабрынёй.**

Аднак, на жаль, нават у такія дні не ўсе людзі імкнуцца жыць па хрысціянскіх запаведзях. Вось і ў Талачынскім раёне падчас свята ў вёсцы Забалацце ў адным з дамоў успыхнула гарачая спрэчка. Нешта не падзялілі паміж сабой яшчэ маладыя мужчына з жанчынай, якія жылі ў грамадзянскім шлюбе. Высвятленне адносін прыняло настолькі прыкры характар, што 35-гадовы гаспадар не вытрываў і пайшоў з хаты. Праўда, на наступны дзень ён астыў і вярнуўся дамоў. Але вясковец зноў ускіпеў, калі ўбачыў сваю суджаную ў кампаніі з незнаёмым мужчынам. У той дзень у гэту вёску прыехаў да сваёй маці сын, які пражываў у Маладзечне. Слова за слова і паміж двума мужчынамі пайшла размова на павышаных тонах. Пакрыўджаны вясковы кавалер не сцярпеў крыўды, схапіўся з-за рэўнасці за нож і ўдарыў госця-гараджаніна менавіта ў раён сэрца. Удар быў даволі дакладны і такой сілы, што імгненна наступіла смерць старэйшага на год “саперніка” за жаночую ўвагу. Міліцыя затрымала забойцу, які кінуўся наўцёкі, калі ўжо добра сцямнела. Па гэтым факце распачата крымінальная справа, вядзецца допыт сведкаў, прызначаны шэраг экспертыз. Дарэчы, перад гэтым следчыя ў абласным цэнтры ўжо дакладна выявілі іншы падобны матыў на глебе рэўнасці. Другога забойцу віцябляніна шукалі ўсю ноч і затрымалі, ён сустрэў вечарам былую жонку каля яе дома і таксама забіў некалькімі ўдарамі нажа.

# Аб самым надзённым

## БЕЗ ЭКЗАМЕНАЎ АБІТУРЫЕНТЫ ЗМОГУЦЬ ПАСТУПІЦЬ У АЙЧЫННЫЯ ВНУ НА ПЕДАГОГАЎ І НА НЕПРЭСТЫЖНЫЯ СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ З НІЗКІМІ ПРАХАДНЫМІ БАЛАМІ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Галоўная асаблівасць, што тыя, хто не дабярэ сёлета патрэбную колькасць балаў, каб стаць студэнтам, пры жаданні могуць прад’яўляць свае сертыфікаты аб здачы ЦТ і ў наступным 2018 годзе. Пры гэтым у прыёмную камісію можна будзе здаць добры сертыфікат па беларускай мове за гэты год, а па матэматыцы, да прыкладу, з яшчэ лепшымі баламі ўжо ЦТ 2018 года.**

Напрыканцы красавіка нашу краіну і бліжэйшых суседзяў перад Вялікаднем накрыла працяглая хваля холаду. Многія паўночныя раёны ўвогуле засыпала снегам, на нейкі час там былі прыпынены палявыя работы і веснавая сяўба. Тым часам на пасяджэнні прэзідыума Савета Міністраў Беларусі было афіцыйна пацверджана, што айчынная эканоміка пачала нібыта пакрыху выходзіць з рэцэсіі. Па выніках першага квартала рост беларускага ВУП дасягнуў 0,3 % пасля працяглага перапынку, што аднак пакуль не адбілася на нашых рэальных даходах, якія працягвалі падаць. А вось для многіх беларускіх сем’яў, у якіх падраслі дзеці і паўстае пытанне выбару свайго месца ў дарослым жыцці, зноў пачалася пара асаблівых хваляванняў.

Як стала вядома, сёлета апошні званок для выпускнікоў нашых базавых і сярэдніх школ прагучыць у аўторак 30 мая. Астатнія вучні будуць вучыцца яшчэ адзін дзень. Услед за гэтым на 4 дні пазней, у сувязі з увядзеннем чацвёртай дысцыпліны для здачы ЦТ і трох рэзервовых дзён для здачы тэсціравання, стартуе прыёмная кампанія па паступленні ў ВНУ. Там дакументы прыёмныя камісіі будуць прымаць з 12 па 17 ліпеня.

Дарэчы, Рэспубліка Беларусь яшчэ ў 2015 годзе падпісала Балонскі працэс, узяла на сябе пэўныя абавязацельствы прытрымлівацца дарожнай карты еўрапейскіх стандартаў атрымання адукацыі, выкарыстання інавацыйных прынцыпаў навучання і адпаведнасці вучэбных праграм патрабаванням эканомікі. Аб пэўных зменах у правілах паступлення ў навучальныя ўстановы як за кошт сродкаў бюджэту, так і на платнай аснове, стала вядома яшчэ ў пачатку года. У юнакоў і дзяўчат з’явілася магчымасць спакойней рыхтавацца да паступлення, разлічваючы на свае здольнасці і веды.

Галоўная асаблівасць, што тыя, хто не дабярэ сёлета патрэбную колькасць балаў, каб стаць студэнтам, пры жаданні могуць прад’яўляць свае сертыфікаты аб здачы ЦТ і ў наступным 2018 годзе. Пры гэтым у прыёмную камісію можна будзе здаць добры сертыфікат па беларускай мове за гэты год, а па матэматыцы, да прыкладу, з яшчэ лепшымі баламі ўжо ЦТ 2018 года. Зразумела, гэта правільны крок улад аб прызнанні тэрміну дзеяння дакументаў аб здачы ЦТ за два гады, як і магчымасць здачы цэнтралізаванага тэсціравання адразу па 4-х прадметах. Добра і тое, што выпускнікам каледжаў пры паступленні на скарочаную форму навучання ў профільных ВНУ цяпер не патрэбна будзе здаваць ЦТ.

Значна спрасціліся ўмовы паступлення ў сельскагаспадарчыя ВНУ, бо яны ў моладзі не прэстыжныя. А вось найбольш кардынальныя змены закранулі 38 педагагічных спецыяльнасцей, на якія амаль 1500 выпускнікоў педагагічных класаў з усёй Беларусі змогуць паступіць без экзаменаў. Аднак па профільных прадметах у іх павінны быць адзнакі не ніжэй 8-мі балаў, а па астатніх прадметах школьнай праграмы трэба мець веды на ўзроўні 7-мі балаў. Такіх маладых людзей залічаць студэнтамі па выніках толькі субяседвання, але далей пасля атрымання дыплома настаўніка і размеркавання ў школе трэба будзе адпрацаваць 5 гадоў, а не 2, як абітурыентам, якія паступаць на агульных умовах.

Работа ў школе нялростая, і гэта робіцца для таго, каб там не было дэфіцыта кадраў. Таксама днямі Міністэрства адукацыі Беларусі вызначыла 25 найбольш запатрабаваных эканомікай спецыяльнасцей, на якія таксама будуць прымаць без экзаменаў здачы ЦТ. У ліку іх “лясная гаспадарка”, “агранамія”, “ветэрынарная медыцына”, “тэхнічная праца і прадпрымальніцтва”, ”абсталяванне і тэхналогіі высокаэфектыўных працэсаў апрацоўкі матэрыялаў” і іншыя. Не сакрэт, што ў мінулым на іх залічвалі з прахаднымі баламі ад 110 да 145 з 400 магчымых, а на платныя месцы прахадны бал быў яшчэ ніжэйшы.

Цяпер жа дастаткова закончыць школу з залатым і сярэбраным медалём, ПТВ альбо ССНУ з дыпломам з адзнакай, вызначыцца па пэўных прадметах нават на 3-м, абласным этапе рэспубліканскіх школьных алімпіяд. Іншая справа, ці пойдуць туды найбольш разумныя і таленавітыя юнакі і дзяўчаты, ці паедуць на вучобу ў ВНУ на перыферыі, бо цяперашнюю моладзь нібыта магнітам цягне найперш у беларускую сталіцу. Магчыма, ёсць сярод іх такія, каму падабаецца знаходзіцца жыць і працаваць на ўлонні прыроды і яны пойдуць на спецыяльнасці, звязаныя з дзейнасцю ў лясной гаспадарцы.

Як і раней, пэўныя няпростыя выпрабаванні чакаюць тых, хто паспрабуе паступіць у ВНУ сілавых структур. Многім прыйдзецца здаваць уступныя экзамены на творчыя спецыяльнасці, на прафесіі, звязаныя з працай у сферы фізічнай культуры і спорту, бо там існуюць свае спецыфічныя патрабаванні для кандыдатаў у студэнты. Як і раней, напрыканцы ліпеня адбудзецца залічэнне ў ВНУ на бюджэтную форму навучання, а ў пачатку жніўня тых, хто зможа вучыцца “платна”. Цяпер практычна ўсюды існуе конкурс, недабор абітурыентаў невялікі назіраўся апошнім часам, а ў моладзі яшчэ зстаецца час добра падрыхтавацца і паспяхова прайсці ўступную прыёмную кампанію-2017.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 04.05.17 | | | | Пятніца 05.05.17 | | | | Субота 06.05.17 | | | | Нядзеля 07.05.17 | | | | Пн.08.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +6 | +7 | +11 | +8 | +4 | +7 | +13 | +11 | +5 | +8 | +14 | +9 | +2 | +3 | +8 | +6 | +1 | +3 | +6 |
| Ціск | 756 | 757 | 757 | 757 | 757 | 756 | 753 | 750 | 747 | 745 | 744 | 744 | 745 | 745 | 745 | 746 | 747 | 748 | 749 |
| Вецер м/сек | 4 | 4 | 4 | 5 | 3 | 4 | 1 | 3 | 3 | 5 | 7 | 5 | 3 | 3 | 3 | 4 | 2 | 4 | 5 |
| | Пн-У | Пн-У | У | Пн-У | У | У | З | З | Пн-З | З | Пн-З | Пн-У | Пн | Пн | Пн | Пн-У | Пн | Пн | Пн |
| Вільготнасць | 82 | 69 | 48 | 66 | 84 | 75 | 51 | 77 | 90 | 70 | 56 | 58 | 80 | 73 | 51 | 54 | 78 | 69 | 42 |

## Дзень за днём

**У І-м квартале ВУП Беларусі нарэшце вырас на 0,3 %. Расія аднавіла пастаўкі з шэрагу беларускіх прадпрыемстваў АПК і павялічыла аб'ёмы адгрузкі нафты. Дэлегацыя Беларусі правяла ў Вашынгтоне перамовы з МВФ. МЗС Беларусі паабяцала скасаваць міграцыйныя карты для іншаземцаў. Больш 2 тысяч беларусаў летась прайшлі прафесійнае навучанне за граніцай. У І-м квартале беларусы прадалі на 0,5 млрд. USD болей валюты, чым купілі. Тры катэгоры абітурыентаў атрымалі права стаць студэнтамі ВНУ без здачы ЦТ.**

# Важнейшыя навіны свету

**Турцыя.** Па выніках рэферэндуму прэзідэнт Р. Эрдаган атрымаў дадатковыя вялізныя паўнамоцтвы, якія дазволяць яму заставацца на сваёй пасадзе да 2029 года.

**Афганістан.** Упершыню ЗША скінулі на падземны комплекс баевікоў-ісламістаў у правінцыі Нангархар самую магутную ў свеце неядзерную бомбу вагой амаль 10 тон.

**КНДР.** Намеснік главы МЗС краіны Хан Сон Роль заявіў, што Пхеньян не будзе сядзець склаўшы рукі ў чаканні моцнага агрэсіўнага прэвентыўнага ўдару ЗША.

**Кітай.** Краіна пачала перадыслакацыю сваіх войскаў да граніцы з КНДР, апасаючыся канфлікту там з ЗША, магчымыя ваенныя дзеянні непакояць яшчэ Карэю, Японію і Расію.

**Карэя.** Віцэ-прэзідэнт ЗША Майкл Пенс на граніцы з КНДР паабяцаў абараніць Пхеньян любымі сродкамі ад агрэсіўнага суседа, які за месяц 4 разы запускаў балістычныя ракеты.

**Францыя.** Еўрапейскі суд па правах чалавека абавязаў Расію выплаціць 3 млн. еўра кампенсацыі 409 пацярпелым падчас правальнай аперацыі пры тэракце ў школе Беслана.

**Расія.** Пасля матэрыялу ў "Новой газете" пра пазасудовыя расправы, 3-х забітых геяў у Чачні ў галоўнай мячэці Грознага прагучалі пагрозы сурова адпомсціць рэдакцыі.

**Кыргызстан.** Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка на сустрэчы кіраўнікоў краін АДКБ і саміце ЕАЭС заявіў, што ў гэтых саюзаў шмат праблем і нарастаючых супярэчнасцей.

**Расія.** Галоўны рэдактар "Московского комсомольца" П. Гусеў заявіў, што ніколі не будзе сябрам Расіі і Беларусь, казахі ўжо спакойна адышлі ад нас з пераходам на лацінку.

**Венесуэла.** Удзельнікі акцый пратэсту супраць улады Н. Мадуры ўслед за атакамі на магазіны сталі паліць пакрышкі, блакіраваць дарогі, было забіта 7, звыш 300 арыштавана.

**Украіна.** У парадку выключэння Вярхоўная Рада дазволіла прысвоіць замежнаму грамадзяніну, беларусу Міхаілу Жызнеўскаму званне пасмяротна Героя Украіны.

**Германія.** Палітолаг І. Прэабражэнскі заявіў DW, што Беларусь застанецца разам з Расіяй толькі да таго часу, пакуль Масква можа плаціць за сяброўства грашмі, нафтай, газам.

**Расія.** На тэлеканале ТВЦ адмянілі паказ каля апоўначы новага малапрыемнага для беларускага лідара фільма-расследвання "Удар властью. Александр Лукашенко".

**Італія.** Паліцыя канфіскавала мноства бутэлек крымскага віна са стэнда Расіі на Сусветнай віннай ярмарцы ў Вероне, бо ў ЕС лічаць анексію Крыма незаконнай.

**Украіна.** Еўрапейскі вяшчальны саюз пацвердзіў, што "Еўрабачанне-2017" у Кіеве 13 мая пройдзе без Расіі, яна таксама адмовілася трансліраваць гэты конкурс песні 43 краін.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Падпісаннем Мытнага кодэкса ЕАЭС, як заявіў эксперт Інстытута стратэгічных даследванняў Д. Мельянцоў, Беларусь выйграла эканамічна, гэты дакумент прагрэсіўны.

**Барысаў.** На новым аўтамабільным заводзе БелДжы напрыканцы мая пачнуць выпускаць выпрабавальныя партыі легкавых аўтамабіляў поўнага цыкла зборкі, а адкрыццё яго павінна адбыцца восенню.

**Астравец.** На першым энергаблоку Беларускай АЭС устанавілі з дапамогай магутнага крана 4 парагенератары вагой 330 тон кожны, пачалі зварку галоўнага трубаправода.

**Мінск.** Загадчык кафедры БНТУ Л. Жоўтанога папярэдзіў, што ў Беларусі засталося не больш 2 гадоў, каб правесці структурныя рэформы і адвесці эканоміку ад вялікага шоку.

**Светлагорск.** На ўзводзімым заводзе цэлюлозы забракавалі вогненебяспечны, зроблены з дрэнных матэрыялаў кабель кітайскай кампаніі "Самсе", замена чакае амаль тысячу км.

**Пухавічы.** Пасля 2-х гадоў падрыхтоўкі прыватнае прадпрыемства "Марозпрадукт" з 650 працуючымі атрымала дазвол ЕС на пастаўкі свайго марожанага ў Еўропу.

**Салігорск.** На першым рудаўпраўленні "Беларуськалія" на працягу пару гадзін праходзіў стыхійны страйк мантажнікаў трэста "Раммантажбуд" з-за істотнага зніжэння заробкаў.

**Мінск.** Пасля афіцыйнага візіту дэлегацыі Сейма Польшчы пасол РП Конрад Паўлік пацвердзіў, што дыялог краін, рост гандлю прадоўжыцца, тэлеканал таксама"Белсат" застанецца.

**Жодзіна.** Адзін з буйнейшых сусветных вытворцаў кар'ерных самазвалаў БелАЗ летась павялічыў прыбытак у 4 разы, выручка ў 27 краінах свету перавысіла 846 мільёнаў рублёў.

**Магілёў.** У абласной дзіцячай бальніцы памерла 4-гадовая дзяўчынка ад моцных пабояў 26-гадовага сужыцеля яе маці з вёскі Амховая-1, душагуба адразу ж арыштавалі.

**Мінск.** Палітолаг В. Карбалевіч прапанаваў узнагародзіць нейкім баявым ордэнам загадкавую фраў А. з Германіі, якая выкрыла вераломныя намеры баевікоў на Дзень волі.

**Гомель.** Суд пакараў 67-гадовага В. Казлова штрафам за быццам крыкі матам, хоць ён пасля анкалагічнай аперацыі можа размаўляць з цяжкасцю, яго 2 сутак трымалі ў камеры.

**Мінск.** Былы прэссакратар прэзідэнта А. Фядута запытаўся ва ўлад краіны, хто на Захадзе дасць нам нейкія грошы пасля казак аб "Белым легіёне", відавочнай палітызацыі следства.

**Ваўкавыск.** Невядомыя мярзотнікі апаганілі непрыстойнымі надпісамі сцяну касцёла св. Тройцы ў гарпасёлку Рось, па факце злоснага хуліганства распачалі крымінальную справу.

**Мінск.** Знойдзеную раніцай падчас зносу будынка комплексу "БелЭкспа" нямецкую авіяцыйную бомбу сапёры вывезлі з цэнтра сталіцы і ўзарвалі на Барысаўскім ваенным палігоне.

# У Беларусі з мая падвысяцца памеры дзіцячых дапамог у прывязцы да БПМ



■ Кар. БЕЛТА

**У Беларусі з мая ўзрастуць памеры дзіцячых дапамог, якія вылічваюцца з памеру бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва (БПМ), паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны.** Пастановай Мінпрацы і сацабароны БПМ з 1 мая па 31 ліпеня бягучага года ў разліку на месяц устаноўлены ў памеры Br183,82 (з 1 лютага па 30 красавіка БПМ складае Br180,10). Новы БПМ павысіўся на 2,1% у параўнанні з дзеючым, адпаведна павялічыліся і памеры дзіцячых дапамог. Так, аднаразовую дапамогу ПРЫ НАРАДЖЭННІ дзіцяці ПЕРШАГА Br1838,20 складзе; пры нараджэнні другога і наступных дзяцей - Br2573,48. Аднаразовую дапамогу жанчынам, якія сталі на ўлік у дзяржаўных арганізацыях аховы здароўя да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці, з траўня будзе ў памеры Br183,82. Штомесячная дапамога сем'ям на дзяцей старэйшых за 3 гады з асобных катэгорый сем'яў, якія вызначаюцца заканадаўствам, на дзіця-інваліда ў траўні-ліпені складае Br128,67; на іншых дзяцей у сям'і - Br91,91. Штомесячная дапамога па доглядзе дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 18 гадоў складзе Br183,82; штомесячная дапамога на дзіця ва ўзросце да 18 гадоў, інфікаванага віч, - Br128,67.

У Беларусі з мая гэтага года дапамогі па доглядзе дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў застануцца ў ранейшых памерах. У адпаведнасці з законам «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей» з 1 студзеня 2013 года памер штомесячнай дапамогі па доглядзе дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў дыферэнцыруецца ў залежнасці ад колькасці дзяцей у сям'і. На першае дзіця ён складае 35% сярэднямесячнай заработнай платы работнікаў рэспублікі, на другое і наступных дзяцей - 40%. Пры выхаванні ў сям'і дзіцяці-інваліда дапаможнік прызначаецца і выплачваецца ў памеры 45% сярэднямесячнай заработнай платы незалежна ад чарговасці нараджэння гэтага дзіцяці ў сям'і. Для разліку памеру дадзенага віду дапамогі прымяняецца паказчык сярэднямесячнай заработнай платы за чацвёрты квартал 2016 года ў Br746,80, паколькі за першы квартал бягучага года сярэднямесячная заработная плата знізілася (Br737,60). Такім чынам, з мая па ліпень памер штомесячнай дапамогі па доглядзе дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў складае на першае дзіця Br261,38; на другое і наступных дзяцей - Br298,72; на дзіця-інваліда ва ўзросце да 3 гадоў - Br336,06. Пражываючым на тэрыторыі радыеактыўнага забруджвання ў зоне наступнага адсялення або з правам на адсяленне дапамога па доглядзе дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў прызначаецца і выплачваецца ў памеры 150% да ўстаноўленага законам

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Полацк.** У ліку 10 прадпрыемстваў краіны ААТ "Полацк-Шкловалакно" ўручылі прэмію ўрада Беларусі за дасягненні ў галіне якасці ў 2016 годзе, рост яго экспарту быў 106,3 % .

**Паставы.** У райцэнтры Віцебскі філіял "Белмытнасэрвіс" зноў аднавіў аказанне паслуг па мытным дэклараванні тавараў і грузаў, раней дзейнічала з 1992 года мясцовая мытня.

**Лёзна.** У аграгарадку Стасева ля адзіных у Беларусі афіцэрскіх могілак кіраўнікі раёна і дэпутаты пасадзілі парк са 183 дрэў, па колькасці пахаваных тут у вайну воінаў.

**Шаркаўшчына.** На прайшоўшай у аграгарадку Германавічы ярмарцы вакансій пабывалі 19 беспрацоўных, у райцэнтры 7 чалавек згадзіліся паехаць на курсы газазваршчыкаў.

**Браслаў.** На беразе возера Дрывяты ўзвялі ангар для інвентару з прычалам для парусной школы РФСК "Дрывяціч", яе адкрыццё падчас свята мастацтваў "Браслаўскія зарніцы".

**Барань.** Прэзідэнт з малодшым сынам Мікалаем запаліў свечку ў мясцовай царкве, заклікаў землякоў актыўней шукаць сабе працу, а начальства – болей варушыцца.

**Глыбокае.** На тэрыторыі раёна з-за старэння насельніцтва летась знеслі яшчэ 67 пустуючых закінутых дамоў, у 111 вёсках краю стала пражываць меней 50 чалавек.

**Віцебск.** Пад вечар патрульны міліцэйскі УАЗ сутыкнуўся з маршрутным таксі № 17, якое ад удару перавярнулася, пацярпелі 4 чалавекі, іх адразу даставілі ў бальніцу.

**Шаркаўшчына.** На аўкцыёне фонду "Віцебскаблмаёмасць" прадалі 4 драўляныя будынкі былой Шкунціцкай базавай школы, там зробяць базу адпачынку з нацыянальным адценнем.

**Віцебск.** За горадам затрымалі раніцай 47-гадовага мужчыну, які напярэдадні вечарам падпільнаваў былую жонку каля яе дома і забіў пяццю ўдарамі нажа.

**Докшыцы.** Пераможцам раённага конкурсу шматдзетных сем'яў стала сямейства Карніловічаў з вёскі Таргуны, яны былі лепшымі і ў намінацыі "Нашы ручкі залатыя".

**Наваполацк.** У рэанімацыю патрапіў 41-гадовы рабочы, яго позна вечарам збіў на дарозе Лепель-Полацк невядомы вадзіцель аўтамабіля і скрыўся з месца ДТЗ.

**Лынтупы.** Напрыканцы красавіка ў гарпасёлку зафіксавалі рэкордную ў краіне вясной вышыню снежнага покрыва – 11 см, у Віцебску выпала снегу 9 см, зноў вярнулася зіма.

**Чашнікі.** Пад раніцу па невядомай прычыне загарэўся дом у вёсцы Капцевічы, у выніку пажару загінуў 37-гадовы непрацуючы гаспадар, агонь пашкодзіў дах, столь і сцены.

**Шуміліна.** Акадэмія навук Беларусі вырашыла прадоўжыць сёлета раскопкі на адкрытым унікальным археалагічным комплексе Кардон эпохі вікінгаў VIII-X стагоддзя.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

Уладзімір Скрабатун

Прыродныя цікавосткі Глыбоччыны.

# Даліна ракі Авуты магла б стаць турыстычнай “Мекай”. Але, не сёння...

**Пры жаданні і без праблемаў, можна скласці ТОП-10 ці ТОП-20 прыродных цікавостак Глыбоччыны. Прытым заўважым, што з гэтага глыбоцкага ТОПа некалькі прыродных цікавостак могуць патрапіць і ў ТОП-100 прыродных цікавостак усёй Беларусі.**

Напрыклад, найвядомейшая ТОПавая глыбоцкая прыродная цікавостка – возера Доўгае, самае глыбокае возера краіны, у якім водзяцца рэліктавыя рачкі, што прыплылі сюды ў ледавіковы перыяд з Паўночна-Ледавітага акіяна. Мабыць, адзінае возера Беларусі, дзе водзіцца рыба стынка (азёрная форма марской рыбы корушкі). У гэтым возеры, на глыбіні 23-х метраў, знаходзіцца бераг возера, якім ён быў 12 000 гадоў таму.

Можна назваць і Глыбоцкі дэндралагічны сад, помнік прыроды рэспубліканскага значэння. Галубіцкую пушчу. Возера Гінькава, 3-е па глыбіні на Беларусі, на беразе якога знаходзіцца адзіная на Беларусі карставая пячора. Альбо возера Белае, што недалёка ад возера Доўгага – эталоннае возера па чысціні вады. У яго глыбінях ёсць мох фантыналіс – рэдкі для Беларусі від воднай флоры, які ўтварае магутныя плывучыя дзярнінкі.

Ёсць на Глыбоччыне яшчэ адна прыродная цікавостка, аб якой амаль нідзе і нічога не напісана і не сказана, акрамя аднаго, што гэта, паводле пастановы Мінпрыроды №21 ад 18.03.2008 года – геалагічны помнік прыроды рэспубліканскага значэння – Града “Горкінская”.

У свой час аўтар гэтых радкоў разам з віцебскім краязнаўцам і літаратарам М. Наместнікавым зрабілі цікавую вандроўку па Глыбоччыне. Віцебскі краязнаўца цікавіўся старажытнымі каменнымі крыжамі. Бачылі іх у Галубічах, Плісе, Зябках… Заехалі і на старыя могілкі ў вёсцы Горкі-2. Ад могілак, што стаяць на ўзвышшы, у заходнім кірунку – паўстала неверагодна прыгожая панарама. Амаль горныя краявіды! Горкінскія відарысы ніколькі не саступяць па прывабнасці лагойскім!

Потым, не аднойчы – і жартам, і ўсур’ёз – чуў ад некаторых сваіх знаёмых, напрыклад, ад Пятра Юруця, колішняга старшыні Псуеўскага сельсавета, меркаванне – не там зрабілі гарналыжную трасу! –У Горках трэба было гару паднасыпаць, а не ў Сілічах!

У гэтым апавяданні можна было б і кропку паставіць… Аднак, паўз Горкінскую граду пралягае рака Авута, а яе даліна - таксама адна з прыродных цікавостак Глыбоччыны.

Два тыдні таму, а менавіта 20 красавіка, выдаўся вельмі файны дзень: штыль, сонца, цяплынь. Самы спрыяльны дзень для даўно запланаванай вандроўкі. Пафоткаць прыроду, цэрквы і касцёлы. Аўтар гэтых радкоў, а таксама Зміцер Лупач і Леанід Юрык вырашылі завітаць у Чарневічы. Тут, акрамя царквы і касцёла, прыцягвае ўвагу новы будынак Дома культуры з бібліятэкай у стылі хай-тэк. Аддаўшы наведванню Чарневічаў досыць часу, вяртацца ў Глыбокае вырашылі іншай, нязведанай намі дарогай, праз Бортнікі, Маркава і Мнюту.



Новы Дом культуры і бібліятэка ў Чарневічах.



Рэчка Кабыленец ля Чарневічаў.



Вадаспад на Авуце.

На выездзе з Чарневічаў, яшчэ не зніклі і апошнія хаты, нашу ўвагу, збоч дарогі, на левым яе баку, прыцягнуў глыбокі яр. Спыніліся. Нешта неверагоднае! Па нізу яра цячэ, можна сказаць, сапраўдная горная рэчка. Дно яе “забрукавана” каменнем. У самім рэчышчы суцэльнае нагрувашчванне вялізных валуноў! Зразумела, што стагоддзямі, з прамываннем рэчкай яру, камяні спаўзалі і падалі на яго дно. Аднак жа, і рэчка Пескаватка цячэ праз Глыбокае ў глыбокім яры, але ў ёй – пясчанае дно і адзінкавыя невялікія валуны. А тут, у Чарневічах, амаль горная рэчка! У рэчку з падэшвы яра збягае крынічная ручаіна. Крынічка акультураная, зверху яе – металічная накрыўка і кубак. Пакаштавалі, вада – смачная! Мо і мінералка? Як, дарэчы, вада з недалёкай адсюль крыніцы Святога Яна.

Праехалі далей з кіламетр, спусціліся ў даліну. Мост. Рака Авута. Як акінуць вокам улева і ўправа – рака Авута цячэ праз яўна акрэсленую даліну, якая атачаная ўзвышшам. Шырыня яе – 150–250 метраў. Такой акрэсленай даліны не ўбачыш нават на Дзвіне. Дзвіна цячэ наўпрост, праз берагі.

Перад мостам, на рацэ Авута – вадаспад. Але ён не з бетона ці камянёў, ён – з вялізных бярвенняў, можа, нават з дубовых. І калі гэты стаў зрабілі? За “польскім часам”? Можа некалі млын быў?

Тэрыторыя навокал вельмі цікавая! Тут збягаюцца ў адной кропцы тры раёны: межы Глыбоцкага, Шаркоўшчынскага і Мёрскага. Можна прайсціся з сотню метраў па беразе Авуты і за пару хвілінаў наведацца адразу ў тры раёны!

Недалёка ад маста зліваюцца ў адну рэчку два хуткаплынных празрыстых ручаі. Маляўкі сноўдаюць! Гэтая рэчка, тут жа, упадае ў Авуту. Адкуль гэтым ручаям узяцца? Наперадзе, крокаў за 30, гара. З-пад гары! Дзве магутныя крыніцы!

Трэба адзначыць, што ў даліне ракі Авуты, якая глыбока ўразаецца ў раўніну, мноства, калі не тысячы, то сотні крыніцаў, якія бруяць з-пад узвышша даліны па ўсёй даўжыні Авуты. Шмат якія з іх не замярзаюць нават у самыя сцюдзёныя маразы. Самую славутую крыніцу даліны ракі Авуты – крыніцу Святога Яна – мы ўжо згадалі вышэй. Яшчэ адна вядомая крыніца даліны ракі Авуты – у самым яе пачатку – пры шашы Полацк-Вільня. Яна акультураная дарожнікамі, каля яе – аўтастаянка, пункт адпачынку.

Падрабязная мапа Глыбоцкага раёна, якая мелася ў нас з сабой, не давала ніякай дадатковай інфармацыі. Праўда, “горная рэчка” на ёй адзначаная, даўжыня яе, хіба, 2,5 км. Аказваецца, гэта тая самая меліярацыйная канава, што ў цэнтры Чарневічаў ля касцёла, якая за межамі вёскі ўжо цячэ ў сваім натуральным камяністым і глыбокім яры. Аднак назва “горнай рэчкі” на мапе не падпісаная. Між тым ёсць яшчэ і лепшыя, і больш падрабязныя онлайн мапы, то бок праз Інтэрнэт. Гэтая “горная рэчка” мае назоў Кабыленец. А вуліца ў Чарневічах, што пераходзіць у дарогу на Бортнікі – Млыновая. Значыць, вуліца вяла да млына. Так! На польскай вайсковай мапе за 1933 год, там, дзе мост на Авуце, сапраўды адзначаны млын!

Сваімі ўражаннямі ад вандроўкі аўтар гэтых радкоў вырашыў падзяліцца з Аляксеем Протасам, начальнікам Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

– *А вы, Уладзімір Іванавіч, няўжо не ведалі пра гэтую “горную рэчку”! Нам яна ўжо “прыелася”, часта праязджаем побач!*– здзіўляецца Аляксей Протас.

– Вам “прыелася”! А нам – не! Першы раз паехалі гэтай дарогай!

– *Наконт даліны ракі Авуты, то я з вамі згодны! Прадпрымальныя людзі, пры спрыяльных умовах, там даўно зрабілі б турыстычную “Меку”. Але ж вы, Уладзімір Іванавіч, самі разумееце, не цяпер!*

– Авута была б цікавая для сплаву турыстаў на байдарках, перадусім увесну падчас паводкі.

– *Так. Скажу больш: можна па рацэ паставіць у некалькіх месцах плаціны, каб і ўлетку трымаўся пэўны ўзровень вады, спрыяльны для байдарачнікаў…*

Гартаючы “Атлас паляўнічага і рыбалова. Віцебская вобласць”, аўтар чамусьці не знайшоў згадкі аб такой значнай рацэ Глыбоччыны, як Мнюта і яе водных насельніках. Аднак аб Авуце, як важнай для рыбаловаў рацэ, згадка ёсць. Сярод пералічаных вядомых нам усім рыб, насельнікаў ракі Авута, адзначаны ялец. Не такая ўжо і рэдкая рыба для нашага краю, яго багата і ў Дзвіне. Аднак гэтая драпежная рыбка сямейства карпавых аддае перавагу толькі чыстым рэкам, якія не забруджаныя дзейнасцю чалавека. Рыбка гэта даволі патрабавальная да ўмоў пасялення, любіць прахалодныя і празрыстыя рэкі з камяністым дном. Пры каламутнасці, а каламутнасць можа быць выкліканая, напрыклад, дажджамі, рыбка не застанецца на месцы. Пры зніжэнні якасці вады ялец адразу здымаецца са звыклага месца, прычым ён можа перамясціцца як вышэй па плыні ракі, так і ў тым жа раёне, але на той участак, дзе вада святлей і празрысцей.

Іменавіта гэтыя характарыстыкі вады, якія мае рака Авута, што жывіцца шматлікімі сцюдзёнымі крыніцамі, – спрыяльныя для пражывання харыўса і стронгі (форелі). Аднак не буду настойваць, што раку Авуту трэба неадкладна зарыбіць ласасёвымі пародамі рыб. Гэта пытанне хутчэй адносіцца да адмыслоўцаў па рыбаводстве. Зарыбіш, напрыклад, раку, а стронга і харыўс збягуць раптам у Дзвіну і далей – у Латвію. Аднак адзначу, што адзін вядомы глыбоцкі рыбак сцвярджаў аўтару, што стронга і цяпер водзіцца ў некаторых сцюдзёных ручаях на Браслаўшчыне.

На заканчэнне адзначым, што самая ўнікальная рака Глыбоччыны – Авута – выцякае з возера Падавута, потым праходзіць праз возера Грацкае. У басейне ракі, акрамя згаданых вышэй азёраў, яшчэ Гінькава, Вялікае Язна, Малое Язна, Стрэчна, Сяльцоўскае, Качанава і інш. Асноўныя прытокі: Нехрысць і Ісцянка (справа), Улінец (злева). Даўжыня ракі – 47 кіламетраў, плошча вадазбору – 461 км². Упадае Авута ў раку Дзісна за 3 км на паўднёвы захад ад горада Дзісна.




# Росякасць, нарэшце, ацаніла глыбоцкую згушчонку!

**Глыбоцкую згушчонку аднеслі да катэгорыі "якаснага малака", а рагачоўскую - да "тавараў з парушэннямі".**

Выробленая ў Глыбокім згушчонка (брэнды "Глыбокае" і "Мілава") патрапіла ў катэгорыю "якаснага малака", а прадукцыя Рагачоўскага МКК ("Рагачоў") – у "тавары з парушэннямі".

У прыватнасці, па заключэнні экспертаў Росякасці, у рагачоўскай згушчонцы "глейкасць не адпавядае патрабаванням ГОСТа", піша ej.by.

"Па выніках лабараторных выпрабаванняў, дадзены тавар прызнаны таварам з парушэннем, паколькі ў ім выяўлены парушэнні патрабаванняў заканадаўства па маркіроўцы: тавар быў заяўлены на адпаведнасць патрабаванням ГОСТа, але глейкасць прадукта не адпавядае значэнням усталяваных ГОСТам паказчыкаў, што ўскосным чынам можа сведчыць пра парушэнні тэхналогіі вытворчасці. Прыгэтым прадукт з'яўляецца бяспечным", – адзначана ў заключэнні.

У рамках веернага даследавання Росякасці па 92 параметрах якасці і бяспекі былі вывучаныя 27 найболей папулярных на расійскім рынку гандлёвых марак малака суцэльнага згушчанага з цукрам. Кошт прадукцыі складаў ад 37 да 114 рос. рублёў за адзінку тавара. Большая частка ўзораў была выраблена на тэрыторыі Расіі (у Белгарадскай, Валагоцкай, Варонежскай, Арлоўскай і Смаленскай абласцях, Рэспубліцы Башкартастан і Краснадарскім краі), выключэннем сталі тавары беларускай вытворчасці.

Даследаванне паказала, што толькі два тавары з усіх даследаваных адпавядалі апераджальнаму стандарту Росякасці. Гэта прадукцыя пад гандлёвымі маркамі "Валаконаўскае" і "Кароўка з Караноўкі".

*ej.by*




# Адказнасць за забруджванне лесу прапануецца перагледзець у Беларусі

**Пытанне аб крымінальнай адказнасці за забруджванне лесу ў Беларусі прапануецца разглядаць толькі ў выпадку істотных негатыўных наступстваў. Размова аб гэтым ішла сёння ў Палаце прадстаўнікоў, дзе міністр лясной гаспадаркі Міхаіл Амельяновіч прадставіў у першым чытанні адпаведныя папраўкі ў некаторыя законы, перадае карэспандэнт БелТА.**

Як адзначыў Міхаіл Амельяновіч, з улікам даручэнняў кіраўніка дзяржавы аб дэкрыміналізацыі нязначных парушэнняў заканадаўства, а таксама з улікам праваапрымяняльнай практыкі прыцягнення да адказнасці за забруджванне лесу органамі і арганізацыямі Міністэрства лясной гаспадаркі і Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце законапраектам прапануецца ўнесці пэўныя змяненні ў артыкулы 275-277 Крымінальнага кодэкса.

Так, цяпер у адпаведнасці з часткай 1 артыкула 275 дзеючага КК прадугледжана крымінальная адказнасць за ўчыненне паўторнага на працягу года забруджвання лесу нават пры адсутнасці прычынення шкоды навакольнаму асяроддзю. Атрымліваецца, што грамадзянін, які забрудзіў лес шляхам выкіду нават нязначнай колькасці смецця (напрыклад, адной бутэлькі), прыцягваецца да адміністрацыйнай адказнасці па ч. 1 арт. 15.30 КоАП. У выпадку паўторнага на працягу года такога ж забруджвання лесу і пры адсутнасці негатыўных для навакольнага асяроддзя наступстваў ён падпадае пад крымінальную адказнасць. Такі падыход, на думку Міхаіла Амельяновіча, не зусім апраўданы з пункту гледжання ступені цяжкасці парушэння і адказнасці, якая надыходзіць за яго. У сувязі з гэтым прапануецца разглядаць пытанне аб крымінальнай адказнасці за забруджванне лесу толькі пры надыходзе істотных негатыўных наступстваў, а менавіта - пры прычыненні ўрону ў буйным памеры.

Акрамя таго, з улікам міжнароднай практыкі, а таксама значнай колькасці незаконных высечак лесу, праведзеных пераважна ў эксплуатацыйных лясах з прычыненнем урону ў асабліва буйных памерах, законапраектам прапануецца ўвесці крымінальную адказнасць за незаконную высечку ў эксплуатацыйных лясах з прычыненнем урону ў асабліва буйным памеры.

Прымяняльна да артыкулаў 275-277 КК законапраектам з улікам змяненняў, якія ўносяцца ва Ўказ ад 24 чэрвеня 2008 года нумар 348, прапануецца змяніць памер буйнога і асабліва буйнога памеру: **павялічыць памер буйнога ўрону да 250 базавых велічынь, асабліва буйнога - да 500 базавых велічынь.**

Таксама сёння на пасяджэнні дэпутаты прынялі ў першым чытанні папраўкі ў некаторыя законы па пытаннях патэнтаў на вынаходствы, карысныя мадэлі, прамысловыя ўзоры.

*БелТА.*

# Што стане з жалезнымі дзвярыма за пяць год, калі кожны кот не пройдзе міма і пакіне сваю пазнаку. Фотафакт.

**Уладзімір Скрабатун**

Што стане з кузавам легкавога аўтамабіля ці з матацыклам, калі кожны кот, які праходзіць міма, пасікае на яго? Мяркую, тое самае, што з гэтымі жалезнымі дзвярыма, што у адным з дамоў па вуліцы Мінскай. Жалезаператворыцца ў парашок і пачне сыпацца долу.

Іншая справа, што аўтамабісты, матацыклісты перыядычна займаюцца мыйкай і афарбоўкай свайго транспартнага сродку, праходзяць тэхагляд. То кацярам тут наўрад ці ўдасца давесці справу разбурэння да канца.

Што датычыць гаспадара гэтых дзвярэй, то ён часта бывае ў ад'ездах. А якое тады выйсце? Сабаку на ланцугу прывязаць? Ну, дык і ён не будзе супраць таксама адзначыцца на гэтых дзвярах...





# Бытавыя паслугі ветэранам Вялікай Айчыннай вайны ў маі прадаставяць са скідкамі

**У Мінску прадпрыемствы бытавога абслугоўвання прадаставяць ветэранам Вялікай Айчыннай вайны скідкі на паслугі, паведамілі карэспандэнту БелТА ва ўпраўленні бытавога і гасцінічнага абслугоўвання насельніцтва Мінгарвыканкама.**

Так, 2-15 мая прадпрыемствы ААТ "Усход" і ТАА "Эстар" акажуць ветэранам ВАВ бясплатныя цырульніцкія паслугі. У маі без аплаты ветэраны змогуць скарыстацца паслугамі цырульнікаў у ПУП "Бурая Ю.У." і ТДА "Усяж".

Устаноўлены скідкі таксама на паслугі пральняў, рамонт абутку і швейных вырабаў, хімчыстку. Скідкі распаўсюджваюцца на рамонт ювелірных вырабаў, мастацкія фота.

Падрабязную інфармацыю аб скідках на паслугі і рэжыме работы прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання можна даведацца па нумары 167.

Дарэчы, КУП "Гарадскія лазні" на працягу года прадастаўляе скідку 20 працэнтаў для ветэранаў ВАВ на паслугі агульных аддзяленняў лазняў і індывідуальных душавых кабін.

*БелТА.*

# Без даведкі аб даходах. Банкі могуць самі вырашаць, як ацаніць крэдытаздольнасць фізічных асоб

**Пастановай праўлення Нацбанка №253 ад 18 красавіка 2014 г., якой было ўведзена патрабаванне аб прадастаўленні даведак аб даходах для ацэнкі крэдытаздольнасці фізічных асоб, з 1 мая 2017 г. спыніла дзеянне. Пра гэта паведаміла прэс-служба Нацбанка.**

З 1 мая 2017 г. банкі самастойна будуць вызначаць падыходы да ацэнкі крэдытаздольнасці фізічных асоб, у тым ліку пры вызначэнні пераліку спадарожных дакументаў, якія падаюцца заяўнікам.

Пастанова №253 была часовым нарматыўным прававым актам, прынятым з мэтай павышэння якасці ацэнкі банкамі крэдытаздольнасці заяўніка, нагадвае рэгулятар.

Дакументам прадугледжвалася, што ацэнка банкам крэдытаздольнасці фізічнай асобы для прыняцця рашэння аб прадастаўленні яму крэдыту, а таксама аб заключэнні дагавора фінансавання пад уступку грашовага патрабавання (факторынгу) з юрыдычнай асобай або індывідуальным прадпрымальнікам, якія ажыццяўляюць рознічны гандаль, па грашовым абавязацельстве фізічнай асобы ажыццяўляецца пры наяўнасці аднаго або некалькіх наступных дакументаў:

– даведка аб памеры заробку (грашовага забеспячэння);

– даведка аб памеры пенсіі;

– даведка аб прадастаўленні дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогі;

– даведка аб памеры штомесячнага грашовага забеспячэння;

– даведка аб даходах, вылічаных і ўтрыманых сумах падаходнага падатку з фізічных асоб;

– іншыя дакументы, якія пацвярджаюць атрыманне даходу.

«З улікам неабходнасці забеспячэння больш гнуткіх падыходаў да ацэнкі крэдытаздольнасці фізічных асоб і стварэння ўмоў для развіцця сучасных банкаўскіх паслуг з выкарыстаннем дыстанцыйных каналаў банкаўскага абслугоўвання дзеянне пастановы № 253 не працягвалася», — растлумачылі ў Нацбанку.

***Паводле пп.by***

■ Л. Катовіч,
*памочнік урача эпідэміёлага Глыбоцкага РЦГЭ .*

# Ідзеш у лес – падумай аб кляшчах!

З надыходам цёплых дзён, мы ўсё часцей праводзім выходныя ў лесе, на прыродзе. Аднак не кожны ведае аб тым, што ў лесе, на сенажаці нас падцікоўваюць кляшчы. У апошнія гады іх колькасць павялічылася. На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь пераносчыкамі кляшчовых інфекцый (Лайм-барэліёза і кляшчовага энцэфаліту) з'яўляюцца два віды іксодавых кляшчоў (кляшчы роду Ixodes і Dermacentor).

Кляшчовы энцэфаліт – вострае вірусное прыроднаачаговае інфекцыйнае захворванне з пераважным паражэннем цэнтральнай нервовай сістэмы. Наступствы захворвання разнастайныя – ад поўнага акрыяння да парушэння здароўя, якія прыводзяць да інваліднасці ці смерці.

Лайм-барэліёз (хвароба Лайма) – гэта бактэрыяльнае прыроднаачаговае захворванне са шматстатнасцю клінічнай карціны, часцей за ўсё характарызуецца праявай выразнай чырвонай плямы на скуры (эрытэмы) і пераходзячае ў хранічнае захворванне, у выпадку адсутнасці лячэння. Для лайм-барэліёза больш характэрнае паражэнне скуры, суставаў, сэрца і нервовай сістэмы. Перадача ўзбуджальнікаў кляшчовых інфекцый адбываецца пры ўкусе інфікаванага кляшча. Акрамя таго, кляшчовым энцэфалітам можна заразіцца, ужываючы некіпячонае казінае малако.

Перыяд актыўнасці іксодавых кляшчоў у прыродзе пачынаецца ўвесну і працягваецца да лістапада месяца, максімальная ж колькасць кляшчоў назіраецца ў першай палове лета. Месцамі найвялікшай канцэнтрацыі пераносчыкаў з'яўляюцца зацененыя лісцяныя і змяшаныя лясы, з густым травастоем, прасекі, лесапалосы, краі лясных узлескаў. Заражэнне кляшчовым энцэфалітам і Лайм-барэліёзам адбываецца галоўным чынам у перыяды масавага адпачынку, збору ягад і грыбоў насельніцтвам у лясной зоне.



Па дадзеных аператыўнага маніторынгу, у 2016 годзе ў Глыбоцкім раёне ад укусаў кляшчоў пацярпела 116 чалавек, што на 14% больш, чым у 2015 годзе (102 чалавекі). У 2016 годзе сярод насельніцтва раёна зарэгістравана 4 выпадкі захворвання лайм-барэліёзам.

Пры выяўленні на целе кляшча, які прысмактаўся, трэба звярнуцца ў найбліжэйшую арганізацыю аховы здароўя, дзе акажуць медыцынскую дапамогу. Калі немагчыма неадкладна звярнуцца па дапамогу, варта выдаліць кляшча самастойна пятлёй з баваўнянай ніткі, апрацаваўшы месца ўкусу любым спіртавым сродкам.Пасля выдалення кляшча трэба звярнуцца ў амбулаторна-паліклінічную арганізацыю па месцы жыхарства для ўліку і правядзення прафілактычнага лячэння хваробы Лайма, як найболей шырока распаўсюджанай у рэспубліцы кляшчовай інфекцыі.

Звяртаем вашу ўвагу, на неабходнасць выкарыстання пры наведванні лясной зоны ахоўнага адзення, якое максімальна захінае адкрытыя ўчасткі цела, абутку і рэпелентных (што адпужваюць) сродкаў; правядзенне сама і ўзаемааглядаў адзення і адкрытых участкаў цела, праз кожную гадзіну і па выхадзе з лесу; ужываць у ежу толькі кіпячонае казінае малако. Таксама неабходна аглядаць і вызваляць ад кляшчоў, якія прысмакталіся, хатніх жывёл: коз, кароў, сабак, котак.

# Лавіць рыбу ў зоне праходжання паветранай лініі электраперадачы – небяспечна для жыцця



■ А.Н. Ішуцін,
*інспектар Глыбоцкага МРА "Энергаанагляду".*

**З надыходам чарговага сезона рыбнай лоўлі "Энерганагляд" папярэджвае аб тым, што рыбалка ў ахоўнай зоне паветраных ліній электраперадачы (ЛЭП) забароненая!**

Правіламі ўсталёўваюцца ахоўныя зоны электрычных сетак да 10 м ад праекцыі крайняга провада на зямлю для ЛЭП 10 кВ – 15м, для ВЛ-35 кВ і для ВЛ-110 кВ – 20 м.

Паважаныя рыбакі, звярніце ўвагу, што на апорах ЛЭП паблізу вадаёмаў змешчаны папераджальныя ці забараняльныя плакаты: "Лоўля рыбы забароненая", "Ахоўная зона ЛЭП" ці інш., якія інфармуюць аб небяспецы. Гэтыя плакаты працаўнікамі РЭС абнаўляюцца штогод. Папярэджваючы аб небяспецы, энергетыкі спрабуюць выратаваць вам жыццё. Будзьце і вы ўважлівыя, падыходзячы да ЛЭП любой напругі, неабходна памятаць аб ахоўнай зоне і пераканацца, што на шляху няма правісλых ці абарваных правадоў. Пры іх выяўленні варта арганізаваць ахову месца пашкоджання, папярэдзіць усіх прысутных аб небяспецы набліжэння на адлегласць меней за 8-10м і неадкладна паведаміць аб пашкоджанні ў РЭС па тэлефоне 2-62-41 ці 101 у РАНС.

Перад тым, як раскласці вуду ці іншыя снасці і вырабіць іх закід, пераканайцеся ў тым, што вы знаходзіцеся ў бяспечным месцы, па-за зонай ЛЭП. Звычайна адлегласць ад найблізкіх правадоў да зямлі ці воднай роўнядзі вадаёма 6-10 метраў, а даўжыня вудзільна з абсталяваннем перавышае дадзеныя адлегласці ў некалькі разоў. Таму верагоднасць патрапіць пад напругу і ўздзеянне электрычнага току ўзрастае шматкроць. Парой нават няма прамога кантакту з токаводнымі часткамі ЛЭП, а, наблізіўшыся на недапушчальную адлегласць да іх, можна падвергнуць сябе і прысутных уздзеянню электрычнага току.

Уяўляе небяспеку рыбная лоўля пры набліжэнні ці падчас навальніцы, бо вугляпластыкавыя вудзільны і мокрыя лескі з абсталяваннем з'яўляюцца добрым правадніком электрычнага току.

**Беражыце сваё жыццё!**

■ Аляксей Протас,
*начальнік Глыбоцкай іспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# З тых часоў застаўся прынцып – не нашкодзь прыродзе!

З часоў некантралюемай лоўлі рыбы дзясяткі тысяч гадоў назад, аматарская лоўля рыбы зведала змены і сёння цвёрда рэгламентавана заканадаўствам. Прылады лоўлі сталі настолькі дасканалыя, што шанцаў сысці ад сучаснага рыбака, у рыбы практычна няма.

Раней, для таго каб злавіць рыбу, чалавек змушаны быў марнаваць велізарную колькасць часу і сіл. Неабходна было вырабіць снасць ці сплесці сетку. Снасці абрываліся, ірваліся, рыбак проста фізічна не мог нарабіць істотнай шкоды папуляцыі рыбы. Сёння, са з'яўленнем сучасных тэхналогій і даступнасці рыштунка, рыбалка ператварылася ў масавае захапленне.

Судзіце самі – яшчэ пяцьдзясят гадоў назад лоўля шчупака на блешню была заняткам, ці ледзь не для эліты рыбаловаў-прафесіяналаў. Інэрцыйныя шпулькі, у якіх заблытвалася леска, цяжкія дарагія блешні, якія адрываюцца нават пад уласнай вагай, нязграбныя бамбукавыя вудзільны. А сёння можна купіць сучасны лёгкі спінінг для джыга, да яго пары дзясяткаў грузілаў з кручкамі і прыгаршчу сіліконавых рыбак-прынад усялякіх колераў і памераў. Выцягванне драпежнай рыбы з вадаёма з дапамогай такіх снасцяў не патрабуе сур'ёзных высілкаў.

Прастата рыбалкі прывяла да таго, што чалавек стаў вылоўліваць рыбу хутчэй, чым яна натуральным чынам аднаўлялася. Таму, апроч уводзінаў нормаў і правілаў рыбалоўства, з'явілася спартыўная рыбалка як спосаб актыўнага адпачынку.

Таксама, як і рыбная лоўля для выжывання, спартыўная рыбалка з'явілася досыць даўно. Першым згадваннем аб рыбалцы, як пра від спорту, з'яўляецца "Трактат аб рыбнай лоўлі з выкарыстаннем кручка" 1496 года. З тых часоў змяняліся правілы, удасканальваліся спартыўныя снасці, нязменным заставаўся толькі прынцып гэтага віду рыбалкі – мінімальная шкода прыродзе. Рыба, злоўленая "на вынік", пасля абмеру і ўзважвання, як правіла, выпускаецца ізноў у вадаём.

Такім чынам, рыбакі-спартоўцы, якія з дапамогай сучасных снасцяў могуць вылавіць велізарную колькасць рыбы, практычна не наносяць шкоды папуляцыі. Гэта значыць чалавек, першапачаткова паставіўшы рыбу на грань выжывання, затым мудра зраўнаваў шанцы паляўнічага і ахвяры.

Так што, паважаныя рыбаловы-аматары, ёсць, над чым задумацца. Не нашкодзь прыродзе і не нашкодзіш сабе сам!

**Паважаныя грамадзяне!** Наступіў час выезду на прыроду. Просьба – вазьміце з сабой мяшок для смецця, зрабіце добрую справу, прыбярыце хоць бы за сабой. Дзякуй.

Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць на тэлефон давеpy 8(02156)5-59-80 ці на мабільныя тэлефоны: МТС 897-23-02, МТС 890-55-28, МТС 249-45-49, МТС 645-66-78.



# Практычны іспыт у ДАІ для матацыклістаў ускладняць – Шуневіч

**У Беларусі практычны іспыт для матацыклістаў ускладняць. Такую заяву зрабіў міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч на адкрыцці мотасезона-2017.**

Па словах кіраўніка ведамства, гэта мера павялічыць узровень якасці падрыхтоўкі кіроўцаў матацыклаў з улікам насычанасці дарожнага руху, а таксама паспрыяе падвышэнню культуры кіравання.

Міністр унутраных спраў адзначыў, што дарожная бяспека з'яўляецца адным з прыярытэтаў працы МУС, і звярнуў увагу на тое, што загінулых і параненых на дарогах з года ў год становіцца менш – статыстыка апошніх васьмі-дзесяці гадоў. Таксама ў сярэднім за перыяд у дванаццаць месяцаў на трыста чалавек менш атрымліваюць раненні, каля ста ўдзельнікаў ДТЗ атрымоўваецца выратаваць.



Дамагчыся дадатнай дынамікі ў дадзеным пытанні дапамаглі тэматычныя праграмы. Сярод іх Ігар Шуневіч адзначыў "Мінус 100" і шэраг праграм рэгіянальнага маштабу. Міністр лічыць неабходнай прафілактычную працу: прапаганда, агітацыя і нават проста парады даюць вынікі.

*БелТА.*

